


# ТУТЭЙШЫЯ

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ №4 (20), красавік 2012

ІНТЭРНЭТ

## Дзе ў Слуцку ратавацца ад зомбі?

У інтэрнэце на сайце www.mapofthedead.com зьявілася **«Зомбі-мапа»** - стылізаваная мапа сьвету на карысьць тым, хто здолеў выжыць у зомбі-апакаліпсісе. Абсалютна бескарысная, але далікатна намаляваная мапа можа спатрэбіцца ў выпадку сапраўднай навалы зомбі. Калі, канечне, пры гэтым будзе працаваць інтэрнэт. **«Зомбі-мапа»** (**Map of the dead**), мусіць стаць адным з найбольш эфэктыўных інструмэнтаў у барацьбе чалавецтва за выжываньне.

Складзеная паводле мапаў **Google**, яна паказвае знаходжаньне важных аб'ектаў інфраструктуры - крамаў (у тым ліку крамаў зброі), лякарняў, аптэкаў, АЗС, аддзелаў паліцыі і так надалей - у буйных гарадох **ЗША** і сьвету (у тым ліку ў **Менску** й нават **Слуцку**).




***Калі раптам нас будуць перамагаць зомбі, мы ведацьмем, што з дапамогаю вайскоўцаў з в/ч 28390 мы правемся да лякарні, забярэм усіх ацалелых ды рушым праз «штаны» да запраўкі, а потым у лясы - партызаніць.***

Зразумела, што гэтую інфармацыю стваральнікі сайту пазначалі ня самі: дадзеныя аб тых ці іншых арганізацыях маюцца ў арыгінальных **Google Maps**, але не ў такой прыгожай форме. Новы рэсурс выкананы ў чорна-чырвоных колерах (чырвоным адзначаны мейсцы кампактнага пражываньня людзей - знаходзіцца тут будзе небясьпечна), зь вялікай кнопкай **«Ратуйцеся!»** замест **«Шукаць»** побач з радком пошуку. Карацей, атмасфэра як мае быць.

*Джафар Сідх, поўную вэрсыю артыкулу чытайце на www.SLUCAK.org*

СПОРТ

**Календарь матчей СФК «Слуцк» в чемпионате Беларуси по футболу 2012 года среди команд первой лиги.** ***Паводле www.football.by***

| ПЕРВЫЙ КРУГ | ВТОРОЙ КРУГ |
|---|---|
| **1-й тур. 21 апреля.** Слуцк - Лида | **16-й тур. 11 августа.** Лида - Слуцк |
| **2-й тур. 28 апреля.** Волна (Пинск) - Слуцк | **17-й тур. 18 августа.** Слуцк - Волна (Пинск) |
| **3-й тур. 5 мая.** пропускает тур - Слуцк | **18-й тур. 25 августа.** пропускает тур - Слуцк |
| **4-й тур. 12 мая.** Слуцк - Гранит (Микашевичи) | **19-й тур. 1 сентября.** Гранит (Микашевичи) - Слуцк |
| **5-й тур. 19 мая.** Днепр - Слуцк | **20-й тур. 8 сентября.** Слуцк - Днепр |
| **6-й тур. 26 мая.** Слуцк - Ведрич-97 (Речица) | **21-й тур. 15 сентября.** Ведрич-97 (Речица) - Слуцк |
| **7-й тур. 2 июня.** Береза-2010 - Слуцк | **22-й тур. 22 сентября.** Слуцк - Береза-2010 |
| **8-й тур. 9 июня.** Слуцк - СКВИЧ (Минск) | **23-й тур. 30 сентября.** СКВИЧ (Минск) - Слуцк |
| **9-й тур. 17 июня.** Сморгонь - Слуцк | **24-й тур. 6 октября.** Слуцк - Сморгонь |
| **10-й тур. 23 июня.** Слуцк - Полоцк | **25-й тур. 13 октября.** Полоцк - Слуцк |
| **11-й тур. 30 июня.** Химик (Светлогорск) - Слуцк | **26-й тур. 20 октября.** Слуцк - Химик (Светлогорск) |
| **12-й тур. 4 июля.** Слуцк - Городея | **27-й тур. 27 октября.** Городея - Слуцк |
| **13-й тур. 8 июля.** Руденск - Слуцк | **28-й тур. 3 ноября.** Слуцк - Руденск |
| **14-й тур. 14 июля.** Слуцк - ДСК (Гомель) | **29-й тур. 10 ноября.** ДСК (Гомель) - Слуцк |
| **15-й тур. 28 июля.** Витебск - Слуцк | **30-й тур. 17 ноября.** Слуцк - Витебск |







ГРАМАДЗТВА



**26 красавіка ў Мінску прайшла традыцыйная акцыя дэмакратычнай грамадскасці - «Чарнобыльскі шлях», прысвечаная 26-м угодкам катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.**

Удзельнікі акцыі пачалі збірацца а 18-й каля будынка Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, а потым вуліцай Сурганава рушылі да парка Дружбы народаў. Улады далі дазвол на правядзення шэсця, аднак канфіскавалі гукаўзмацняльную апаратуру. Удзел у акцыі ўзялі да 2 тыс. чалавек.

Галоўнай тэмай «Чарнобыльскага шляху» сёлета стала патрабаванне адмены будаўніцтва Астравецкай АЭС і вызвалення палітвязняў.

Затрымалі дзяўчыну, якая вітала шэсце сцягам з балкона. Міліцыянты прыйшлі ў кватэру Валянціны Дваракоўай, завезлі яе ў пастарунак, дзе ў дзяўчыны знялі адбіткі пальцаў. Супраць яе склалі пратакол нібыта за «парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў» (так яны ацанілі бел-чырвона-белы сцяг у яе руках) і адпусцілі. Паводле звестак праваабаронцаў, агулам пасля акцыі ў сталіцы былі затрыманыя каля 40 чалавек.

Намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Ігар Яўсееў адзначыў, што яму пра гэтыя затрыманні нічога невядома.

*Паводле www.tut.by, www.nn.by, www.euroradio.fm*

# SLUCKI PARK 2

V-ЗНАЧЫЦЬ VАСЯ

(2012)

1

ПРАДУКТЫ

МЯСА

МАЛАКО

!!!

МАЕ РАДАРЫ ПАКАЗВАЮЦЬ ШТО Ў ГЭТАЙ КРАМЕ ПАДМАНВАЮЦЬ СПАЖЫЎЦОЎ

ДАЙЦЕ МНЕ ВОСЬ ТОЙ СЫРОК!

СЫРОК

2

ГЭТА САМ ВАСЯ! НАМ КАПЕЦ!

3

УВАГА! ПАДМАН НА 0,14 ГРАМАЎ!

САПРАЎДНАЯ ВАГА: 3,14 г

ПАЗНАЧАНА НА ЦЭНЬНІКУ

СЫРОК „СМАК" 5.000 руб. ВЕС: 3,28 грамм

4

ПАДМАНШЧЫКІ, ВЫ ПАПЛОЦІЦЕСЯ ЗА СВАЮ ХЛУСЬНЮ! ПАКЛІЧЦЕ СЮДЫ МЭРА ГЭТАЙ КРАМЫ І ПРЫНЯСІЦЕ КНІГУ „ЗіП"!

УСЁ ШТО ЖАДАЕЦЕ, МОЙ УЛАДАР

5

КАНЕЦ ТВАІМ БРУДНЫМ СПРАВАМ, НАДЫЙШОЎ ЧАС СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ!

Я МЭР ГЭТАЙ КРАМЫ! PROBLEMS?!

CHECK IN!

МЭР КРАМЫ N5

6

І ТАК БУДЗЕ З КОЖНЫМ

КНІГА ЗАЎВАГАЎ І ПРАПАНОВАЎ ПЫТАЙЦЕ Ў КРАМАХ ВАШАГА ГОРАДУ...

ЭЦІС АЦІС АНІМАЦІС ЭЦІС АЦІС АМАЦІС!

У КРАМЕ БОЛЕЙ НЕ ПРАЦУЕ ТОЙ НАЧАЛЬНІК КАМУНІСТ!

НЕ-Е-Е-Е!

*Усе пэрсанажы выдуманыя, усялякае супадзеньне выпадковае*

*Новы эпізод "**Слуцкага Парку**" шукайце ў наступным нумары "**Тутэйшых**" і на сайце **www.SLUCAK.org***

**Вася** - непахісны, непадкупны, справядлівы супэргерой. На сваім плашчы-самалёце ён гойцае па крамах у пошуку недабрасумленных прадаўцоў і карае іх чароўнай кнігай "**ЗіП**"!

**Кніга заўвагаў і прапановаў** - дагэтуль дзейны сродак супраць хамства, падмана, нізкай якасьці абслугоўваньня з боку прадаўцоў ды ўласьнікаў гандлёвых кропак. Вы можаце ў любы момант патрабаваць чароўную кнігу "**ЗіП**" і пазначыць у ёй свае водгукі, пахвалу, патрабаваньні, скаргі. Але памятайце - злаўжываньне прэтэнзыямі па дробных прычынах здольнае зрабіць з Вас монстра, скандальнага і крыважэрнага!

**ЗМАГАЙЦЕСЯ З ХАМСТВАМ! НЯ БУДЗЬЦЕ СКАНДАЛІСТАМІ!**


©ТУТЭЙШЫЯ

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ

ПОГЛЯДЫ АЎТАРАЎ АРТЫКУЛАЎ МОГУЦЬ НЕ СУПАДАЦЬ З ПАЗЫЦЫЯЙ РЭДАКЦЫІ

**УСЕ АРТЫКУЛЫ ДРУКУЮЦЦА НА МОВЕ АЎТАРАЎ.**
УЖЫВАЮЦЦА: БЕЛАРУСКАЯ (ТАРАШКЕВІЦА), БЕЛАРУСКАЯ (НАРКАМАЎКА) ДЫ РАСЕЙСКАЯ МОВЫ





***Заснавальнік і выдавец:***
*грамадзкая ініцыятыва "Тутэйшыя"*

***Нашы кантакты:***
***e-mail:*** *slucak1116@gmail.com.;*
***адрэса для ліставаньня:*** *223610 г.Слуцак, а/с 60*

*Распаўсюджваецца бясплатна*
*Наклад: 299 асобнікаў*